№№13–14
(3552–3553)

24 студзеня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**



**З-ЗА КРАТАЎ**

## Жывы!



Як паведамлялася, адвакат Марына Кавалеўская ўпершыню больш як за два месяцы змагла сустрэцца са сваім падабаронным — кандыдатам у прэзідэнты на мінулых выбарах Андрэем Саннікавым.

Па словах жонкі палітыка Ірыны Халіп, размова адваката з Андрэем працягвалася каля гадзіны. Але аб умовах утрымання і аб тым, чаму апошнія месяцы палітык знаходзіўся ў поўнай ізаляцыі, не было сказана нічога.

*— Андрэй жывы, адносна здаровы і нядрэнна выглядае. Я так зразумела, што Андрэя папярэдзілі, што калі ён будзе распавядаць, што адбываецца ў калоніі, дык больш да яго нікога не пусцяць. Гэта мая версія,* — распавяла Ірына Халіп. — *У асноўным большую частку спаткання Андрэй запытваў, як там у нас справы. Усё ж такі два месяцы ўвогуле без інфармацыі пра тое, што адбываецца з ягонай сям'ёй. Ведаю, што за гэтыя два месяцы ён напісаў 20 лістоў да адваката, дзе спрабаваў, як і мне, патлумачыць, што там адбываецца. І ніводны ліст не дайшоў.*

Па апошніх звестках, Андрэй Саннікаў нарэшце пераведзены з памяшкання камернага тыпу ў атрад. А гэта дае больш магчымасці знаходзіцца на свежым паветры і кантактаваць з іншымі асуджанымі.

**ЭКСПЕРТЫЗА**

## Узровень рэпрэсій у Беларусі — беспрэцэдэнтны

Пра гэта гаворыцца ў штогадовай справаздачы па правах чалавека ў свеце, якую ў нядзелю 22 студзеня апублікавала адна з найбольш аўтарытэтных міжнародных праваабарончых арганізацый Human Rights Watch.

*"Прэзідэнцкія выбары ў Беларусі 19 снежня 2010 года былі несапраўднымі і разбілі надзеі на дэмакратычны прагрэс у гэтай краіне",* — гаворыцца ў справаздачы са спасылкай на экспертнае заключэнне Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе.

*"У паслявыбарныя месяцы ўлады пачалі кампанію ціску супраць праваабаронцаў, палітычных актывістаў, журналістаў і адвакатаў. Жорсткія абмежаванні супраць свабоды аб'яднанняў, сходаў і прэсы застаюцца ў сіле, а ўзровень рэпрэсій — беспрэцэдэнтны",* — падсумоўвае справаздача леташнія падзеі ў нашай краіне.

**ЗЕМЕЛЬНЫЙ ВОПРОС**

## В Беларуси есть свободные земельные участки

*Их можно купить без аукционов.*

В республике есть небольшие населенные пункты, где на земельные участки нет спроса. Там можно купить участок, подав заявление в местный орган. *"Нет смысла проводить аукционы там, где много пустых территорий, достаточное количество пустых домов, которые можно приобрести у собственников,* — цитирует belta.by заместителя председателя Государственного комитета по имуществу **Андрея Гаева.** — *Любой человек может прийти туда, подать заявление, и ему предоставят земельный участок без аукциона".* Людям дают возможность построить дом или какой-то другой объект, чтобы земля не пустовала, была благоустроена.

Где есть спрос и очередь на земельные участки, там, конечно, есть и потребность в проведении аукционов, подчеркнул представитель Госкомимущества.

Местные исполкомы при формировании земельных участков должны обеспечить там необходимую, хотя бы минимальную, инфраструктуру, чтобы туда можно было подъехать, чтобы была электроэнергия. На это нужны средства. И получить их можно в результате проведения аукционов. *"Аукционы — это как раз тот механизм, который позволяет найти средства в местный бюджет и направить их на развитие инфраструктуры в целом для жилищного и иного строительства",* — отметил Андрей Гаев.

**КРЫМІНАЛ**

## Падпаліў сабутэльніка

*Будаўнік атрымаў апёкі 40% скуры з-за таго, што невядомы сабутэльнік абліў яго гарэлкай і падпаліў.*

Мужчына, які каля 5 раніцы скончыў змену на будаўніцтве дарогі, вырашыў выпіць. Відавочна, выбар сабутэльніка быў няўдалым, бо ў пэўны момант успыхнула сварка. Невядома, што стала нагодай для рэзкіх дзеянняў, але невядомы сабутэльнік будаўніка абліў яго гарэлкай і падпаліў.

Пацярпелага мужчыну знайшлі супрацоўнікі міліцыі. Зараз яны чакаюць, калі небараку стане лепш, каб даведацца аб акалічнасцях справы.

## Дапамог пенсіянеру... пазбавіцца машыны

*Мінчанін спачатку дапамог пенсіянеру прынесці прадукты з машыны, а потым угнаў аўто.*

Жыхар сталіцы вызваўся данесці прадукты з машыны да кватэры. Удзячнасць пенсіянера была настолькі шчырай, што той запрасіў новага знаёмага ў госці. Пасля сумеснай вячэры дабрадзей сышоў. Праўда, на вуліцы яму захацелася адчыніць аўто новага знаёмага. Патрапіўшы ў машыну, злодзей знайшоў там ключы. Такім шанцам мужчына не мог не скарыстацца, і ўжо праз некалькі гадзін пенсіянеру паведамілі, што яго транспартны сродак патрапіў у аварыю. Кіраваў аўто несумленны сябар, якога затрымалі на месцы.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**



**ПАД ГРАДУСАМ**

## У Беларусь ідуць маразы

*Сёння, **24 студзеня**, надвор'е Беларусі абумовіць цыклон з цэнтрам над Калінінградскай вобласцю і яго атмасферныя франты.*



***25 студзеня*** тэрыторыя краіны будзе знаходзіцца пад уплывам поля паніжанага атмасфернага ціску.

Захаваецца зімовы характар надвор'я. Часам будзе ісці снег. На асобных участках дарог галалёдзіца. Тэмпература паветра 24 студзеня ноччу -2...- 9, днём 0...- 5° С; 25 студзеня пахаладае яшчэ на 2—4 градусы.

*"Пачынаючы з чацвярга чакаецца ўзмацненне маразоў, і да выхадных тэмпература паветра мінімальная ноччу -10...-17° С, месцамі -18...-23° С; максімальная днём -7...-14° С, месцамі да -17° С. Адчуванне маразоў ўзмоцніць і парывісты вецер",* — адзначыў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэаралагічнага цэнтра **Дзмітрый Рабаў.**

**ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА**

## Іян КЕЛІ: «Мы па-ранейшаму будзем падтрымліваць дэмакратычныя памкненні беларускага народа»

*Амбасадар ЗША пры АБСЕ Іян Келі выступіў з заявай наконт Беларусі.*

Дыпламат выказаў сур'ёзную заклапочанасць Злучаных Штатаў далейшым пагаршэннем сітуацыі з правамі і свабодамі чалавека ў Беларусі, а таксама згадаў парламенцкія выбары, якія маюць адбыцца ў Беларусі сёлета.

*"Пашана і захаванне асноўных свабод: свабоды выказвання ды свабоды сходаў і згуртаванняў — у адпаведнасці з абавязацельствамі АБСЕ з'яўляецца абсалютна неабходнай для правядзення свабодных, справядлівых і вартых даверу выбараў,* — сказаў амбасадар. — *Мы па-ранейшаму будзем падтрымліваць дэмакратычныя памкненні беларускага народа нашай дапамогай і ўдзелам".*

**ПАЛІТКУХНЯ**

## Ясна, что нічога не ясна

23 студзеня прадстаўнікі вядучых апазіцыйных партый і рухаў правялі кансультацыі, падчас якіх абмяркоўвалася супольная стратэгія дэмакратычных сіл на 2012 год. Сярод шэрагу пытанняў была і пазіцыя наконт маючых адбыцца ў верасні выбараў у Палату прадстаўнікоў. Агульнага рашэння пакуль няма.

Журналістаў на сустрэчу палітыкаў не пусцілі, патлумачыўшы гэта тым, што пакуль адбываюцца рабочыя кансультацыі.

Па словах сустаршыні аргкамітэта па стварэнні БХД **Віталя Рымашэўскага**, катэгарычна за ўдзел у выбарах у панядзелак ніхто з палітыкаў не выказаўся. *"Разышліся крыху ў пытаннях наконт тактыкі. Адны лічаць, што байкатаваць выбары трэба не з 25 сакавіка, як мы прапануем, а бліжэй да даты выбараў. Але большасць лічыць, што ў спісах галасавання прозвішчаў кандыдатаў ад дэмакратычных сіл быць не павінна",* — заявіў палітык.

Карацей, пасля кансультацый, якія адбыліся ў панядзелак, ясна толькі тое, што нічога не ясна.

**Да ведама**

*У так званую "кааліцыю шасці" ўваходзяць: Аб'яднаная грамадзянская партыя, Партыя БНФ, Беларуская партыя левых "Справядлівы свет", аргкамітэт па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя", рух "За Свабоду" і грамадзянская кампанія "Гавары праўду!".*

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ**

## Малыш прославился, а маме выставили счет

История о том, как в начале января минчанин Валентин Юрченко в автомобиле принял роды у своей жены на польской границе, облетела польские и белорусские СМИ. Малыш появился на свет семимесячным, и его вместе с мамой поместили в клинику. Теперь родители пребывают в шоке: за лечение Белостоцкий госпиталь выставил счет почти на 9000 долларов.

В такую сумму обошлось двадцатидневное пребывание в клинике матери и ребенка.

— Я был в шоке, когда увидел счет, — говорит папа маленького Миши Валентин Юрченко, — Разумеется, таких денег у меня нет. Я работаю в МЧС. Сами знаете, какая зарплата у бюджетников.

Страховая компания отказалась компенсировать стоимость лечения, сославшись на то, что страховка не распространяется на роды.

— Теперь нам нужно доказать, что преждевременные роды представляли угрозу жизни моей жены, — объясняет Валентин.

По словам генерального консула Беларуси в Белостоке Александра Беребени, Белостоцкий госпиталь не требует у белорусов немедленно оплатить счет.

— За лечение женщины заплатит ее муж, а деньги для маленького Миши готов перечислить польский фонд, который помогает недоношенным детям, — уверяет Александр Беребеня. — Кроме того, поступило предложение от фирмы "Снежка" — известного производителя красок. Ее руководство также готово помочь оплатить счет за лечение ребенка.

В консульство звонили жители Белостока, которые прочитали об этой истории в местной газете. Люди беспокоились, как чувствуют себя ребенок и его мама.

— Сегодня я видел Мишу и его маму Светлану. Они здоровы и выписываются из клиники, — заверил генеральный консул. — Надеюсь, уже вечером малыш приедет на родину.

**Татьяна ГУСЕВА,** *gazetaby.com.*

**АКТУАЛИИ**

## Реформы для проформы



***Светлана КАЛИНКИНА***

Агентство "Синьхуа" опубликовало выдержки из интервью Лукашенко китайским СМИ. Это речи разумного, адекватно оценивающего ситуацию человека. *"Думаю, что нам надо обратить серьезное внимание на политическую реформу. Надо всегда быть на шаг впереди тех процессов, которые будут происходить. Я об этом впервые говорю, но обдумывал давно этот вопрос, обсуждал эти проблемы. И мы потихонечку будем в этом направлении двигаться. Главное — сохранить стабильность, дать возможность человеку нормально жить и выражать свое мнение. Главное — дать человеку возможность сохранить его основные права, на которые он претендует и вправе их иметь".*

Правильные слова сказал. Хотя делал многое не так, конечно, но вспомнил лучшее в себе и пришел к правильному выводу. Потому что на фига упираться, строить заводы, дороги, дома и мосты, если немало людей в этой стране боятся жить, правдами и неправдами стремятся уехать? Если комфортно в ней только, простите за грубое сравнение, обыдляченному сословию, прикормленным властью чиновникам, да тем, кто до сих пор мечтает, что проспект Независимости в Минске вновь будет называться Сталинским.

Когда народ еще только учили грамоте в избах-читальнях, то, наверное, можно было надеяться выстроить политическую систему по принципу "власть лучше знает". Но перенимать этот опыт сейчас, ориентироваться в политике на тех, кто сам себя считает не пригодным на самостоятельные мысли, — и глупо, и недальновидно, и стыдно даже. А ведь на них и ориентировались.

Впрочем, если стояла задача создать на месте Беларуси территорию под место жительства российских батраков, то надо признать, что власть шла выверенным курсом. И что особенно бросается в глаза — президент тоже медленно превращался в "расійскага парабка", как говорят в белорусском народе...

В общем, давая интервью китайским СМИ, Александр Григорьевич подумал в нужном направлении. Ему бы эту мысль додумать, не откладывая на завтра. Но вот с этим — хорошенько подумать, да не только о дне сегодняшнем, но и наперед, — у нас, как всегда, проблемы. Вошел в образ, выдал вдруг стоящую идею, и... тишина.

Лично у меня есть уверенность, что к парламентским выборам с реформами не поспеем. И поскольку никто никуда не торопится, то несложно догадаться, что план у власти простенький, но долгоиграющий — за слово "реформы" поторговаться. Хотя на самом деле если кому и надо с реформами спешить, то это Лукашенко лично. Потому что после последних президентских выборов его власть стремительно уходит в минус.

Посмотрите, какими условиями обставлена сделка по "Белтрансгазу"! Шаг в сторону — вернешь деньги. Да еще в спину плевок — решение в три раза зарплату на "Белтрансгазе" увеличить, чтобы все поклонники белорусского вождя смотрели и облизывались.

Или возьмем кредит в 10 миллиардов долларов на строительство АЭС. Хорошая сумма. Только ни копейки из этих денег собственно в Беларусь не поступит, потому что распорядителем средств определен российский "Атомстройэкспорт".

Третий пример — миллиардный кредит от российского "Сбербанка", выданный нам на поддержание штанов. Правда, деньги были выделены с условием, что уже в этом году их надо вернуть поставками калийных удобрений. То есть вернем кредит — под угрозу разорения поставим "Беларуськалий", и россиянам легче будет его купить; не вернем — по условиям договора отдадим им контроль над Новополоцким НПЗ.

Вот такая дружба.

Еще два года назад Александр Григорьевич подобные сделки даже не обсуждал бы, и такого откровенного выкручивания рук просто бы не позволил. А теперь, похоже, не только не возмущается, но даже спасибо говорит. Выдрессировали донельзя! Бывший главный враг российских олигархов, он теперь лично развозит по детдомам новогодние подарки от "дяди Миши из Москвы" (если точнее — от миллиардера Михаила Гуцериева) и не смущается двусмысленностью ситуации, в которой уже непонятно, кто теперь клоун, а кто барин?..

Если закрывать глаза на все детали, то, конечно, с Россией у нас новый период нежной любви и она Лукашенко от всех бед спасает. Но если вдуматься, то становится очевидным, что все пошло хуже некуда, и потому срочные политические реформы нужны именно белорусскому президенту. Ведь оппозиция уже как-то приспособилась с диктатурой бороться, и даже детям теплые места за границей под это дело многие умудрились найти. Народ или терпит, или голосует против этого режима массовым отъездом на заработки, чиновники и силовики — массовым стремлением к приработкам. И в целом получается, что все как-то и без реформ обойдутся. Зато в новой ситуации оказалась власть, ей надо торопиться, потому что иначе Лукашенко не только к Путину на прием будет месяцами проситься, но даже к Миллеру какому-нибудь трудно будет попасть.

Россияне ведь тоже демократиям и уважению к слабому не обучены. Они теперь отдают белорусскому президенту команды точно так же, как он отдает команды своим "губернаторам". Ну, рассуждают, зачем церемониться?

И действительно, зачем?.. Если парню притулиться все равно не к кому и если он с твоей руки кормится?.. Да, собственно, только на то его и растили, чтобы все зачистил и был готов порешать любые вопросы без лишних возражений.

Несложно догадаться, что все пророссийские советники сейчас будут убеждать Лукашенко, что с политическими реформами не стоит торопиться, а лучше даже — говорить о них, но ничего не делать, чтобы не нарушить установившийся баланс. Потому что когда в стране все устроено не так просто, когда надо договариваться, когда есть партии, есть оппозиция, есть парламент, есть независимые суды, есть партнеры по переговорам не только на Востоке, но и на Западе, — это уже совсем другая ценовая категория и страны, и первого поста в ней, и любых принимаемых решений. Насколько важны были срочные политические реформы, Лукашенко поймет. Но, возможно, только ближе к 2015 году. Когда вплотную будет стоять вопрос введения российского рубля, и даже какой-нибудь Онищенко сможет крутить носом, не желая тратить время на разговоры с белорусским президентом.

**РЕЙТИНГ**

## Топ-25 самых прибыльных белорусских ОАО

*(данные Министерства финансов Беларуси)*

| № | Компания | Прибыль за III кв. 2011 г., в млн рублей | Прибыль за II кв. 2011 г., млн рублей |
|---|---|---|---|
| 1 | "Беларуськалий" | 5 690 243 | 3 143 174 |
| 2 | БелАЗ | 948 044 | 430 378 |
| 3 | МАЗ | 926 225 | 457 228 |
| 4 | "Гродно Азот" | 677 625 | 276 108 |
| 5 | "Гомельтранснефть "Дружба" | 528 816 | 284 552 |
| 6 | АСБ "Беларусбанк" | 416 368 | 230 693 |
| 7 | "Приорбанк" | 318 846 | 192 138 |
| 8 | Белорусская валютно-фондовая биржа | 249 130 | 195 161 |
| 9 | "Брестгазоаппарат" | 236 773 | 153 756 |
| 10 | "Белагропромбанк" | 213 419 | 159 450 |
| 11 | "Керамин" | 162 658 | 96 737 |
| 12 | БПС-Сбербанк | 129 740 | 93 389 |
| 13 | "Белгазпромбанк" | 110 554 | 63 842 |
| 14 | Гомельский химический завод | 109 567 | 65 148 |
| 15 | "Нафтан" | 107 799 | 42 604 |
| 16 | "Белинвестбанк" | 100 518 | 76 039 |
| 17 | "Могилевхимволокно" | 99 036 | 32 710 |
| 18 | ММЗ | 98 416 | 35 143 |
| 19 | Гродненская табачная фабрика "Неман" | 97 545 | 51 645 |
| 20 | "Белшина" | 89 663 | 74 596 |
| 21 | "Белвнешэкономбанк" | 82 037 | 53 916 |
| 22 | "Белсолод" | 79 576 | 45 305 |
| 23 | "Экомол" | 79 480 | 37 495 |
| 24 | "Промагролизинг" | 76 385 | 36 639 |
| 25 | "Полоцк-Стекловолокно" | 74 763 | 35 749 |

Народная Воля http://www.nv-online.info 24 СТУДЗЕНЯ 2012 г.

ПРОБЛЕМА!

# Суд должен быть независимым

*В 1996 году Александр Лукашенко заявил: "По Конституции судебная власть является фактически президентской. Да, декларирована самостоятельность судов, но назначает и освобождает судей от занимаемой должности президент. В силу этого президенту проще проводить свою политику через судебную власть".*

Вы можете представить, чтобы нечто подобное заявили президент Франции или канцлер Германии? Да они даже в мыслях допустить этого не могут. А скажи, что "судебная власть является фактически президентской", — и дня не продержались бы на своих постах.

Но это там, в западном мире. А у нас, как заметил специальный представитель ООН по вопросу о независимости судей и адвокатов Парама Кумарасвами, "активная концентрация и сосредоточение исполнительной власти в руках президента превратили систему государственного управления из парламентской демократии в авторитарное правление. В результате система отправления правосудия вместе со всеми ее институтами, а именно судебными органами, прокуратурой и адвокатурой, была подорвана и больше не воспринимается как самостоятельная и независимая. Таким образом, принцип господства права не действует".

Наша организация на протяжении 13 лет своего существования проводит ежегодный мониторинг судебных разбирательств и на основании собранной информации мы также констатируем, что в Беларуси у людей нет реального права на доступ к правосудию и на справедливое разбирательство.

### Отсутствие независимости судей

Судьи назначаются Президентом Республики Беларусь по совместному представлению министра юстиции Республики Беларусь и председателя Верховного суда Республики Беларусь, но это все формально, поскольку ни первый, ни второй, ни органы судейского сообщества никакого отношения не имеют к подбору кандидатов на должность судьи. Подготовкой кандидатов на должность судьи занимается Министерство юстиции, которое готовит списки кандидатов на должность судей и представляет на специальную комиссию в Администрацию президента Беларуси. Эта комиссия определяет, кого из претендентов на должность судьи представить президенту Беларуси для утверждения в этой должности. Конечно, комиссия изучит не только биографию, профессиональную деятельность претендента на должность судьи, но и его отношение к политике действующей власти.

Мало того, президент имеет право возбудить дисциплинарное производство в отношении любого судьи и наложить дисциплинарное наказание, даже не возбуждая дисциплинарного производства.

Согласно Закону о судоустройстве и статусе судей, судьи могут назначаться пожизненно или на определенный срок. Президент лично решает, присвоить статус судьи пожизненно или предоставить ему право работы на пять лет. Как правило, Лукашенко утверждает судей на пять лет. Через пять лет аттестационная комиссия Министерства юстиции совместно с Администрацией президента решает, продлить очередной срок судье или отказать в таком праве. Также в этом случае судейское сообщество никак не может повлиять на данное решение.

Несмотря на то что Законом гарантировано, что независимость судей обеспечивается установленными законодательными актами порядком их назначения (избрания, утверждения), приостановления и прекращения полномочий, карьера судьи полностью зависит от исполнительных органов власти, но никак не от органа судейского сообщества.

### Органы судейского сообщества

Если говорить о самоуправлении судей, то такой институт является формальностью, он не решает серьезных вопросов, касающихся всей деятельности судебной системы, начиная от назначения судей и заканчивая вопросами технического и материального обеспечения судей, судебных органов.

### Бюджет зависит от президента

Финансирование общей деятельности судов осуществляется через исполнительную власть.



Бюджет судов, текущие их расходы определяются решением президента. Годовой бюджет на эту деятельность утверждается парламентом, но проект бюджета по финансированию судов на предстоящий год представляется Администрацией президента. Парламент в стране не имеет какой-либо самостоятельности, поскольку зарплаты депутатов также устанавливаются президентом страны.

### Независимость судей ограничена законом и вышестоящим судом

В белорусском законодательстве указаны сроки рассмотрения судебных дел. Но из-за загруженности и значительной нагрузки, повышенной сложности и трудоемкости судья не может выполнять и отправлять правосудие в установленные законом сроки, поскольку одно дело может быть рассмотрено в один день, а на другое требуются месяцы, чтобы объективно и всесторонне его рассмотреть. Ежемесячно районный судья рассматривает более 100 судебных дел, при такой нагрузке вряд ли судья сможет укладываться в определенные сроки по рассмотрению дел. Это дает возможность вышестоящему начальству оказывать давление на любого судью, которого могут привлечь к дисциплинарной ответственности или поставить вопрос о несоответствии занимаемой должности. Именно этот фактор не позволяет судье иметь свое личное мнение по любому находящемуся в его производстве делу, особенно если оно связано с политикой, поскольку если его решение будет расходиться с мнением вышестоящего суда, то долго он не сможет работать на своей должности.

Возможно, поэтому законодатель не закрепил такого понятия, что судебное дело должно быть рассмотрено в разумные сроки.

### У судов несвойственные им задачи и функции

Помимо рассмотрения судебных дел, на судью возложена обязанность по предоставлению статистических данных по рассмотренным делам. И здесь судья подвержен контролю со стороны своего начальства, поскольку оно может исказить его статистические данные, что может позже влиять на зарплату (премию) судьи. Все это отнимает рабочее время у судей. В частности, заполнять статистические карточки приходится по каждому уголовному и административному делу, отражая сведения по исполнению штрафов, фиксируя, что уплачено, что не уплачено, и т.д.

Судьи фактически поставлены в такие условия, что они не могут всесторонне, полно и объективно рассматривать конкретные дела и добиваться вынесения законных судебных постановлений, поскольку сильно зависимы как от исполнительной власти, так и от вышестоящего суда.

### Авторитет судов

Приходится констатировать случаи коррупции в судах. Огласки по таким фактам нет, общественность о них не знает. К сожалению, люди, попавшие под такое подозрение, остаются работать в судах. Как правило, увольняют тех, кто пытается принять законное решение, но которое не поддерживается исполнительной властью.

Судьям дают служебное жилье, но как только судья прекращает свои полномочия, его выселяют без предоставления другого жилого помещения. Поэтому судья вынужден работать так, как ему укажет вышестоящее начальство.

### Падение престижа должности судьи в стране

За последние восемь лет в судах Беларуси отмечается высокая текучесть кадров. Половина судейского корпуса поменялась за восемь лет. Многие не желают работать до предельного возраста на государственной службе.

Низок уровень подготовки работников аппарата судов. У многих сотрудников очень малая зарплата. В связи с этим катастрофическая текучесть кадров.

Мониторинг, проведенный правозащитными организациями, показывает, что есть достаточное количество уголовных дел, когда прокуроры и судьи осуждают людей по фальшивым или политически мотивированным обвинениям. Очень часто исполнительная власть вмешивается в исход судебных разбирательств, причем не только политических дел, но и там, где одной из сторон в суде выступают представители власти. К примеру, по одному решению честь чиновника суд оценил в 100.000.000 рублей, а жизнь убитого простого человека — в 6.000.000 рублей. И эта порочная практика существует в судах.

Судьи лично не в состоянии противостоять таким фактам коррупции, поскольку они не защищены. Назначение судей на короткий срок ставит их в более уязвимое положение, когда решается вопрос о повторном назначении на эту должность. Органы судейского самоуправления не имеют влияния на процесс отбора судей.

В связи с частыми и грубыми нарушениями закона со стороны судейского корпуса в Беларуси действует общественная группа граждан, которая выступает за пересмотр гражданских и уголовных дел в отношении их родных из-за процессуальных нарушений судопроизводства.

Таким образом, граждане Беларуси не могут защититься от произвола должностных лиц правоохранительных органов, органов местной власти через национальное законодательство, в связи с чем многие вынуждены обращаться в международные инстанции для защиты своих конституционных и гражданских прав и свобод. Единственным международным органом, куда граждане могут обращаться с жалобами на нарушение их основных прав и свобод, является Комитет по правам человека Организации Объединенных Наций.



**Олег ВОЛЧЕК, руководитель правозащитного центра "Правовая помощь населению" (г.Киев, Украина).**

РЭГІЁНЫ

## Ледзьве не засталіся без кватэры

*Жыхарка Гродна заплаціла за кватэру толькі пад пагрозай высялення. Дама ледзь-ледзь паспела паказаць аплачаныя квітанцыі прыставам, якія ўжо выносілі маёмасць з кватэры.*

Скандалаў і сварак з камунальнікамі ўладальніца двухпакаёвай кватэры магла б пазбегнуць, калі б своечасова аплачвала рахункі. Пераехаўшы з сынам у новую кватэру ў 2009 годзе, жанчына не палічыла патрэбным плаціць за яе. Толькі двойчы сям'я выдаткавала грошы на жыроўкі. Пры гэтым доўг быў не такім ужо і вялікім — 1 мільён 230 тысяч рублёў плюс 600 тысяч пені. Камунальнікі нават прапаноўвалі ўзяць жанчыну на працу, каб яна патроху аддавала грошы. Але такая прапанова падалася гаспадыні нецікавай.

Такім чынам жыхары кватэры самі давялі справу да крайнасці — да высялення. З новай 60-метровай двухпакаёўкі герояў павінны былі перасяліць у меншую — 37-метровую кватэру. Дзень перасялення быў прызначаны, але ніхто не адчыніў на стук камунальнікаў — гаспадароў не было дома. З'явіліся яны толькі пасля таго, як дзверы былі ўзламаны і прыставы пачалі апісваць маёмасць. Маці і сын трымалі ў руках аплачаныя жыроўкі, адцягнуўшы дзень свайго перасялення да наступных праблем з аплатай.

## Цыгарэты з пахам бензіну

*У пункце пропуску "Катлоўка" затрымалі аўтамабіль, які быў нашпігаваны цыгарэтамі.*

2240 пачкаў цыгарэт "Мінск" памежнікі адшукалі з дапамогай службовых сабак і спецыяльных прабораў. Па першапачатковых разліках, у корпусе легкавога аўтамабіля маркі "Рэно" цыгарэт было напакавана на 6 мільёнаў 720 тысяч рублёў.

З-за сваёй сквапнасці ўладальнік аўто не толькі пазбавіўся ўсёй партыі цыгарэт. На час даследавання канфіскаваны і аўтамабіль, прыкладны кошт якога ацэньваецца ў 85 мільёнаў рублёў.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ГРАМАДА

## З'езд "Белай Русі" пройдзе...

*З'езд рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Белая Русь", на якім арганізацыя можа быць пераўтворана ў палітычную партыю, пройдзе ў кастрычніку 2012 года — пасля парламенцкіх выбараў.*

Пра гэта паведаміў намеснік старшыні аб'яднання, дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Аляксандр Шацько.**

*"Няхай пройдзе буйная выбарчая кампанія, і пасля гэтага на з'ездзе будзем вырашаць, ці сталі мы буйной палітычнай сілай. На выбарах нашы кандыдаты будуць пазіцыянаваць сябе як члены грамадскага аб'яднання. Калі выстаім, тады і карты ў рукі",* — цытуе БелаПАН дэпутата.

Шацько паведаміў, што было вельмі шмат дэбатаў адносна пераўтварэння аб'яднання ў партыю. "*Гучалі меркаванні розныя з розных бакоў, арганізацый. Калі „Белая Русь" стане партыяй, то вялікае кола людзей выпадае з арганізацыі. Дзяржчыноўнікі, напрыклад, не могуць быць па законе часткай палітычнага аб'яднання. Магчыма, трэба захоўваць нейкую грамадскую арганізацыю. У выніку меркаванні падзяліліся — 50 на 50. Мы вырашылі, што ёсць дзе яшчэ папрацаваць",* — зазначыў ён.

НІЗКІ ПАКЛОН

## У Беларусі засталося 32 тысячы ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны

*З іх у вайне ўдзельнічалі 22,6 тысячы чалавек.*

Па стане на 1 студзеня 2012 года ў Беларусі пражываюць 31.905 ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Пра гэта паведаміла начальнік аддзела па справах ветэранаў і пажылых людзей Міністэрства працы і сацыяльнай абароны **Святлана Ермаковіч**.

Па яе словах, сярод 22.599 удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны 6366 чалавек з'яўляюцца інвалідамі вайны першай і другой груп.

*"Час няўмольны: з кожным годам ветэранаў становіцца менш — адбіваюцца старэчы ўзрост, хваробы, наступствы раненняў",* — сказала Святлана Ермаковіч.

Па стане на 1 студзеня 2011 года ў Беларусі жылі 44.142 ветэраны вайны, з іх удзельнікамі вайны былі 32.036 чалавек.

БЕЛАРУСЬ—ЕЎРОПА

## «Замаразкі» даўжынёю ў год

*Беларускае пытанне ўключана ў парадак дня зімовай сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, якая адкрылася ў Страсбургу.*

Беларускае пытанне плануецца абмеркаваць 25 студзеня. Перад еўрапарламентарыямі выступіць са справаздачай дакладчыка ПАСЕ па сітуацыі ў Беларусі **Андрэс Херкель**, а таксама будзе заслуханы даклад прадстаўніка камітэта ПАСЕ па юрыдычных пытаннях і правах чалавека, нямецкага дэпутата **Мары-Луізе Бек**.

Даклад спадара Херкеля і праект рэзалюцыі, якія будуць вынесены на галасаванне, ужо абмяркоўваліся на пасяджэнні палітычнага камітэта ПАСЕ, таму сёе-тое пра іх вядома.

Папярэдне вядома, што санкцыі Еўрасаюза ў дачыненні да афіцыйнага Мінска плануецца захоўваць і нават узмацняць да моманту, пакуль не будуць вызвалены палітзняволеныя, не спыніцца ціск і пераслед палітычнай апазіцыі, незалежных СМІ і праваабаронцаў. Праектам рэзалюцыі прапаноўваецца не аднаўляць кантакты ПАСЕ з беларускімі ўладамі на высокім узроўні да ўвядзення ў Беларусі мараторыя на смяротную кару. Да гэтага ж моманту можа застацца замарожанай і заяўка Беларусі на вяртанне Нацыянальнаму сходу статусу спецыяльнага запрошанага ў ПАСЕ.

Міністры замежных спраў краін ЕС у сваю чаргу выносяць на абмеркаванне прапанову пашырыць крытэрыі ўвядзення санкцый у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў.

Да гэтага часу санкцыі ўводзіліся з прычыны праследу апазіцыі пасля прэзідэнцкіх выбараў. Аднак пасля апошніх выбараў прайшоў год, а парушэнні правоў чалавека не спыніліся, больш за тое — адбываюцца рэгулярна. І не толькі тыя, хто праводзіць выбары, у гэтым вінаватыя. Калі крытэрыі для ўвядзення санкцый будуць сапраўды пашыраны, то пад іх могуць трапіць і дэпутаты, якія прымаюць рэпрэсіўныя законы, і іншыя асобы, вінаватыя ў праследзе іншадумства на Беларусі.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ДАЖЫЛІ!

## Стогадовы рубеж пераадолелі 542 жыхары Беларусі

*100-гадовую планку перасягнулі 458 жанчын і 84 мужчыны.*

Лідар па колькасці доўгажыхароў — Гродзенская вобласць: тут на 1 студзеня бягучага года налічвалася 128 чалавек ва ўзросце старэй за 100 гадоў. На другой пазіцыі ў геранталагічным рэйтынгу — Брэсцкая вобласць (88), на трэцім — Мінская вобласць (79).

У Віцебскай вобласці пражываюць 73 чалавекі, якія ўжо адзначылі свой векавы юбілей, у Гомельскай — 65, у Магілёўскай — 55. А Мінск (і гэта ўжо на працягу многіх гадоў) — на апошнім месцы: нягледзячы на самую вялікую колькасць насельніцтва, у сталіцы менш за ўсё жыхароў ва ўзросце 100 гадоў і старэй (толькі 54), паведамляе belta.by.

Па словах начальніка аддзела па справах ветэранаў і пажылых людзей Міністэрства працы і сацыяльнай абароны **Святланы Ермаковіч**, прадстаўніцы слабага полу пераважаюць сярод беларускіх доўгажыхароў: 100-гадовую планку перасягнулі 458 жанчын і 84 мужчыны. А ва ўзроставай групе старэйшых за 110 гадоў на 1 студзеня гэтага года былі наогул толькі адны жанчыны (іх 13).

СТАЛІЦА

## Суботнік на карысць метро

*У Мінску будуць арганізаваны суботнікі па добраўпарадкаванні трох новых станцый Маскоўскай лініі Мінскага метрапалітэна — "Пятроўшчына", "Міхалова" і "Грушаўка".*

Увод станцый, як паведаміў у панядзелак начальнік КУП "Дырэкцыя па будаўніцтве Мінскага метрапалітэна" **Павел Царун**, запланаваны на верасень, але ўжо зараз ёсць патрэба ў бясплатных руках па добраўпарадкаванні станцый.

Першы суботнік адбыўся ў мінулыя выхадныя дні. Ён сабраў пераважна актывістаў БРСМ. У маючыя адбыцца выхадныя наводзіць парадак на станцыях будуць самі работнікі Дырэкцыі па будаўніцтве Мінскага метрапалітэна.

Па словах Паўла Царуна, для выканання чарнавых прац на кожнай з трох станцый патрабуецца па 20 чалавек. Як правіла, гэта праца, якая не патрабуе кваліфікацыі: уборка смецця, мыццё падлог, дапамога ў дастаўцы будаўнічых матэрыялаў і іншае. Усе суботнікі будуць праводзіцца ў адпаведнасці з распрацаваным графікам усімі раёнамі горада.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# «Безбілетны» эксперымент

**"Во праблема! Як законапаслухмяны чалавек хочаш аплаціць праезд у грамадскім транспарце — дык яшчэ трэба пашукаць, дзе квіток набыць. Вы, калі ласка, разбярыцеся, чаму звычайныя талончыкі не так лёгка купіць".**

Дэфіцыт талончыкаў?.. Немагчыма было паверыць у тое, што чытач, які патэлефанаваў у рэдакцыю, не перабольшвае, нічога не пераблытаў! І карэспандэнт "Народнай Волі" вырашыў паехаць праверыць.

У трамваі, у які я села на прыпынку, што на вуліцы Захарава, адразу да мяне падыходзіць жанчына-кандуктар з катушкай білецікаў. Запытваю:

— Можна мне пяць талончыкаў набыць?

— Ды не, талонаў няма. Не вы першая пытаецеся. Мы і самі не ведаем, што здарылася. Хаця раней мы прадавалі і гэтыя квіткі на катушцы, і талончыкі, а цяпер чамусьці нам талонаў не даюць.

— А калі чалавек едзе з перасадкамі? Не на кожным жа маршруце кандуктар працуе, не на кожным прыпынку кіёск ёсць... Як быць?

Жанчына-кандуктар толькі паціскае плячыма:

— Так, людзі абураюцца. Але што ж я зраблю?

Талончык, праўда, можна набыць і ў вадзіцеля трамвая. Змяніўшы маршрут, я сутыкнулася менавіта з такім "сэрвісам". Але квіток каштуе ўжо не 1300 рублёў, а 1500. Для адных — дробязь, а камусьці пераплачваць 200 рублёў не хочацца.

На трэцім маршруце я ўвогуле сутыкнулася з сітуацыяй, калі ў вагоне і кандуктара не было, і вадзіцель трамвая квіткоў не мела. Давялося "зайцам" праехаць.

Можа, такая карціна назіраецца толькі ў трамвайным парку? Трэба працягнуць эксперымент.

Заходжу ў тралейбус №40 за адзін прыпынак да Камароўскага рынку і набываю талон у вадзіцеля за 1500. На Камароўцы, з боку вуліцы Кульман, як звычайна, набіваецца шмат народу, і далей мы ўжо едзем проста плячо да пляча. Раптам на прыпынку "Оперны тэатр", на якім звычайна людзей няшмат (ну не такія мы ўжо прыхільнікі оперы ці балета, асабліва пасярод рабочага дня), пачынаецца нейкі масавы сыход народу. Са здзіўленнем заўважаю, што ў паўпустым тралейбусе засталіся толькі некалькі чалавек сталага ўзросту, хлопец з дзяўчынай і я. Пакуль кручу галавой, не разумеючы, што адбылося, у салон уваходзяць тры жанчыны-кантралёры. Вось тут усё і стала ясна: народ іх заўважыў — і хуценька збег, каб штрафаў не плаціць.

Паказваю кантралёру прабіты талончык і заадно пачынаю распытваць: што ж адбываецца? Чаму апошнім часам у шапіках на прыпынках талоны не прадаюць, чаму ў кандуктараў талонаў таксама няма?

Жанчына-кантралер не разгубілася:

— Усё правільна! Бо трэба набываць квіткі не ў "Саюздруку", а ў шапіках "Мінсктранса". А то панакупляюць адразу па 20 талонаў, а потым, як праезд паднаражэе, усё роўна гэтыя таннейшыя талоны прабіваюць.




— А колькі па Мінску шапікаў "Мінсктранса"? Дзе іх шукаць?

— Каму трэба — той ведае.

— Не, вы ўсё ж патлумачце, якая розніца, дзе чалавек набывае талоны — у шапіках "Белсаюздруку", якіх па горадзе шмат, ці ў вашых кіёсках? Чаму кандуктарам цяпер талоны для продажу не даюць?

— Не ведаю, — шчыра адказвае жанчына. — Можа, гэта зрабілі, каб неяк транспарт акупаўся?.. Вы ж самі толькі што бачылі, як людзі вывалілі з тралейбуса, як толькі праз вокны ўбачылі, што на прыпынку стаім мы, кантралёры. Значыць, зусім без білетаў ехалі. Цяпер будуць чакаць наступнага тралейбуса, мерзнуць. Хаця 1300 рублёў — гэта што, вялікія грошы? Чаму б не заплаціць?

— Дык і я за тое, каб плацілі. Таму і дзіўлюся, што талоны не прадаюцца...

І тут у нашу размову ўклінььваецца хлопец-студэнт:

— А я так думаю, што гэта ў іх нейкая акцыя пачалася. Вось талонаў на прыпынку не купіш, кандуктара няма, а ехаць трэба. Паехаў — і тут кантралёр. Значыць, заплаціш па поўнай. Я заўважыў, што, як толькі пачаліся праблемы з талончыкамі, адразу нейкія масавыя рэйды кантралёраў па ўсіх напрамках пайшлі.

— Не прыдумляй! Мы як працавалі, так і працуем, — адрэзала жанчына-кантралёр і спыніла размову.

І ўсё ж такі я вырашыла знайсці адказ на, здавалася б, простае пытанне: чаму кандуктары ў грамадскім транспарце цяпер не прадаюць талончыкі?

Тэлефаную ў "Мінсктранс" на "гарачую лінію". Ветлівая жанчына на тым баку слухаўкі запісала пытанне і пайшла высвятляць у спецыялістаў. Адказ быў такі: у абавязкі кандуктара ўваходзіць толькі продаж квіткоў, якія ў яе на катушцы, бо менавіта так можна прасачыць, на якім маршруце і колькі квіткоў прадалі. Прадаваць праязныя талоны, якія можна выкарыстоўваць на іншых маршрутах, кандуктарам забаронена.

Зноў незразумелая логіка, калі, канешне, апусціць "маладзёжную" версію пра тое, што "Мінсктранс" наўмысна ўзяў курс на тое, каб было пабольш штрафаў.

Тэлефаную ў фінансавае ўпраўленне "Мінсктранса". Намеснік генеральнага дырэктара Вольга Качан у адказ спаслалася на нейкую інструкцыю, "якая носіць унутраны характар". Але патлумачыла, што грамадскі транспарт у Мінску акупляецца толькі на 41 працэнт. "Канешне, лепш за ўсё было б выйсці на ўзровень хаця б 70 працэнтаў, — гаворыць Вольга Качан. — Але як гэта зрабіць? Трэба апеляваць да сумлення пасажыраў, якія не набываюць квіткі і едуць бясплатна. Мы штрафуем у дзень прыкладна па 500—700 чалавек, але гэта праблему не вырашае".

Вось такая сітуацыя. З аднаго боку, трэба, каб транспарт акупляўся і людзі плацілі за праезд, з другога — штучна, па нейкай "унутранай інструкцыі" створаны дэфіцыт талончыкаў. Можа, сапраўды "студэнцкая" версія мае рацыю?.. Чым больш штрафаў мы заплацім — тым большы даход будзе ў тых, хто нас возіць?..

**Любоў ЛУНЁВА.**
***Мінск.***

Народная Воля http://www.nv-online.info
24 СТУДЗЕНЯ 2012 г.

**БЕЛАРУСЬ—ЕЎРОПА**

## У новага віцэ-старшыні Еўрапарламента беларускія карані

*Днямі ў Еўрапарламенце памянялася кіраўніцтва. Як мы паведамлялі, замест паляка Ежы Бузека бліжэйшыя два з паловай гады старшынёй будзе немец Марцін Шульц. Былі таксама абраны віцэ-старшыні Еўрапарламента.*

Адным з іх стаў досыць моцна ангажаваны ў “беларускае пытанне” Яцэк Пратасевіч, еўрадэпутат з польскай партыі “Грамадзянская платформа”. Ён будзе адказваць за ўсходнюю палітыку Еўрапарламента.

Да абрання віцэ-спікерам Яцэк Пратасевіч некалькі гадоў узначальваў дэлегацыю Еўрапарламента па сувязях з Беларуссю. Больш за тое, у 44-гадовага палітыка беларускія карані: яго бацька родам з вёскі Новая Мыш пад Баранавічамі.

**ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...**

## В Беларуси может быть начата сборка российского бронеавтомобиля “Тигр”

*Об этом в интервью газете Министерства обороны России “Красная звезда” сообщил председатель Государственного военно-промышленного комитета Беларуси **Сергей Гурулев.***

В настоящее время идут переговоры с потенциальным инвестором по реализации нескольких инвестиционных проектов, среди которых сборка специального транспортного средства “Тигр” производства Арзамасского машиностроительного завода на площадях ОАО “Минский завод колесных тягачей” с последующей локализацией производства и экспорта.

**ЗА КАДРОМ**

## Глава офиса ООН в Беларуси Антониус Брук ушел в артисты

*Чиновник принял участие в съемках проекта “Выше неба”, который создается ПРООН на грант Глобального фонда по борьбе со СПИДом, туберкулезом и малярией и сотрудничестве с Министерством здравоохранения.*

В сериале о жизни белорусской молодежи Антониус Брук сыграл сам себя. По сюжету он должен был дать напутствие участникам большого рок-фестиваля, который в фильме проходит под эгидой ПРООН.

Съемки финального концерта пройдут 24 января в клубе “Репаблик” с участием молодых рок-групп, состоявшихся артистов, звезд спорта, культуры, известных людей Беларуси.

**БЫВАЕТ И ТАКОЕ**

## Как мой муж обматюкал... волка

***Решив в первых числах января провести день в лесу, мы с мужем не думали и не гадали, какой сюрприз нас поджидает.***

До недавних снегопадов зима в Беларуси была бесснежной и теплой. В декабре на Брестчине кое-где можно было грибы собирать — зеленки и подзеленки.

Но, отправившись в первых числах нового года в лес, мы и предположить не могли, что нас там ждет...

Дело было в Роматово Малоритского района. Муж двигался по противопожарной просеке, а я лазила неподалеку по кустам. Обнаружив целую россыпь подзеленок, конечно, очень обрадовалась — виданное ли дело, столько грибов в такую пору! И только собралась кричать “ура!!!”, сообщая мужу о своей находке, как услышала его гневный голос: “Ты чего, скотина, уставился?! И чего сюда приперся?! Убирайся вон!!!” А далее последовала такая отборная и обильная матерщина, какой я от мужа, противника ненормативной лексики, никогда не слышала. Перепугавшись от таких воплей, выскакиваю на просеку, и вижу нечто непередаваемое: не более чем в нескольких десятках метров от меня на просеке играют в “гляделки” двое — мой муж и... волк.

С волками мне уже приходилось встречаться в Беловежской пуще, и с собакой я этого зверя точно не спутала бы. Но что в этой ситуации делать — не сообразил бы и самый сообразительный. Потому что из оружия у нас были только маленькие ножики для срезания грибов.

Не знаю, что так впечатлило серого обитателя здешнего леса, а только он, еще некоторое время постояв, поджал хвост и уныло побрел прочь по просеке. Может, обиделся на незаслуженные ругательства? Как-никак он-то ведь у себя дома, в родном лесу, а тут его гонят вон.

Здесь следует уточнить: до деревни Роматово, со стороны которой шел волк, было не более полукилометра. Возможно, он там промышлял, например, гусями (их там немало, практически на каждом подворье).

Волк был немолодой, матерый. И точно — не бешеный: слюна из пасти не капала, голова не была опущена и признаков агрессии — ни малейших. Он просто стоял и смотрел... И внимательно слушал матерщину мужа и пожелание убраться вон из родного леса.

Как говорят, все хорошо, что хорошо кончается. Кстати, волки в Малоритском районе встречаются достаточно часто, не однажды их видывали заядлые, постоянно наезжающие в тамошние леса грибники. Пообщавшись с множеством экологов и работников лесного хозяйства, выслушала их мнения об этом случае. И если их обобщить, то, вероятнее всего, волк выходит навстречу человеку, если тот оказался поблизости от места, где хищник припрятал свою добычу или ее недоеденную часть (в общем, заначку). И цель у него — не напасть, а скорее отпугнуть от этой заначки двуногого.

По существующему законодательству охота на “серых хищников — матерых и щенков”, как пел Высоцкий, разрешена на территории Беларуси круглый год. Но она не особо выгодна в плане материальном — в виде вознаграждения за каждого убитого зверя. А поэтому истребляется волков не так много. Их размножилось уже столько, что встречи их с людьми не так уж и редки.

**Ольга СВАНССЕН.**
***Брест.***

**ДЫШИТЕ ЛЕГКО**

## В Беларуси будет вестись автоматический мониторинг состояния атмосферного воздуха

*Теперь на сайте Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды ежедневно размещается информация о состоянии атмосферного воздуха с 14 автоматических станций мониторинга, которые работают в крупных промышленных центрах — Минске, Гомеле, Витебске, Бресте, Могилеве, Гродно, Жлобине, Солигорске, Мозыре, Полоцке, Новополоцке.*

В частности, для столицы доступен анализ данных о содержании в воздухе приземного озона, диоксида серы, оксида углерода, оксидов азота и летучих органических соединений, твердых частиц фракции PM-10; для остальных городов — данные по твердым частицам фракции PM-10, взвешенным частицам диаметром от 2,5 до 10 микрон, которые наиболее опасны для здоровья человека.

Мониторинг состояния атмосферного воздуха проводится в 18 промышленных городах республики, в том числе в областных центрах, а также Полоцке, Новополоцке, Орше, Бобруйске, Мозыре, Речице, Светлогорске, Пинске, Новогрудке, Жлобине, Лиде и Солигорске.

Напомним, согласно заявлению Республиканского центра радиационного контроля и мониторинга окружающей среды, в 2011 году значительно снизился уровень загрязнения воздуха в Беларуси, что связано с благоприятными погодными условиями.

**АСОБА Ў ГІСТОРЫІ**

# Апошні кароль...

## *280 гадоў таму нарадзіўся Станіслаў Аўгуст Панятоўскі — адзін з самых супярэчлівых дзеячаў нашай гісторы.*

***6 верасня 1764 года на выбарчым сойме — пад наглядам расійскіх войскаў і прыватных збройнікаў роду Чартарыйскіх (беларускія магнаты) — каралём польскім і вялікім князем літоўскім быў абраны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. 25 лістапада яго каранавалі... А роўна праз 31 год — зноў-такі 25 лістапада, але ўжо 1795 года — манарх падпісаў акт адрачэння ад кароны на карысць расійскай імператрыцы Кацярыны ІІ. Тым самым было спынена існаванне беларуска-літоўскага гаспадарства і Рэчы Паспалітай...***

***Незалежнасць беларуска-літоўскай дзяржавы (ВКЛ) і Польшчы была канчаткова зліквідавана Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй: беларуска-літоўскае гаспадарства прымусова далучылі да Расійскай імперыі, а Польшчу падзялілі паміж Прусіяй і Аўстрыяй... Кароль пасля смерці Кацярыны ІІ (у лістападзе 1796 г.) быў выкліканы яе пераемнікам Паўлам І у Санкт-Пецярбург. Там яго збольшага ўсцешылі — захавалі тытул караля (натуральна, без дзяржавы) і далі невялікі двор. 12 лютага 1798 года апошні кароль і вялікі князь Станіслаў Аўгуст аддаў Богу душу, пакінуўшы не толькі фінансавыя даўгі, але і вялікую загадку для гісторыкаў. Тая загадка і па сёння да канца не разгадана, бо для польскіх даследчыкаў яна бачыцца ў адным кантэксце, для беларускіх — у другім, а для расійскіх — у трэцім... Усе разам так і не сфармулявалі, кім жа быў на самай справе Станіслаў Аўгуст Панятоўскі — няўдалым рэфарматарам, марыянеткай у руках расійскай імператрыцы, самастойным манархам, здраднікам ці проста ўмелым дыпламатам, выпадкова ўзнесеным на каралеўскі трон?..***



Стварэнне аб’ектыўнага жыццяпісу апошняга караля Рэчы Паспалітай і вялікага князя літоўскага доўгі час выглядала праблемай для айчыннай гістарыяграфіі. І толькі ў апошнія 10—15 гадоў пачалі з’яўляцца грунтоўныя артыкулы, прысвечаныя гэтай тэме. Праўда, не было колькі-небудзь аб’ёмных і глыбокіх манаграфій, якія б аб’ектыўна, на падставе архіўных даных, выявілі ўсе аспекты жыцця манарха. Чаму? Па меркаванні польскага гісторыка Пятра Угнеўскага, эпоха Станіслава Аўгуста Панятоўскага надзвычай складаная, і таму постаць яго да сённяшняга часу выклікае супярэчанні і не можа прывесці даследчыкаў да кансэнсусу. У гэтым панятку якраз і важна тое, што не дзе-небудзь, а менавіта ў Беларусі з’явілася нарэшце грунтоўнае гістарычнае даследаванне, прысвечанае знакамітаму земляку, дзяржаўнаму і палітычнаму дзеячу Вялікага Княства Літоўскага Станіславу Аўгусту Панятоўскаму. Манаграфія брэсцкага даследчыка Леаніда Несцерчука **“Станіслаў Аўгуст Панятоўскі: манарх, асветнік, мецэнат”**, выдадзеная ў мінулым годзе, найбольш поўна высвятляе асобу караля. Кніга, па прызнанні самога аўтара, стала вынікам яго шматгадовай працы ў архівах, бібліятэках ды іншых навуковых установах Беларусі, Польшчы, Францыі, Вялікабрытаніі, ЗША, Расіі. Але не толькі Л.Несцярчук прыпаў да гісторыі Бацькаўшчыны часоў Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Прафесар Грыцкевіч не менш скрупулёзна даследаваў той перыяд гісторыі. Але вернемся (хаця б пункцірна) да асобы самога манарха...

### Воўчынскі шляхцюк

Станіслаў Аўгуст нарадзіўся 17 студзеня 1732 г. у Воўчыне (цяпер Камянецкі раён), у маёнтку свайго бацькі, які на той час быў жанаты на князёўне Канстанцыі Чартарыйскай — дачцэ кашталяна віленскага Казіміра Чартарыйскага. У пасаг Канстанцыя атрымала 400 тысяч злотых, за якія сям’я Панятоўскіх у 1721 годзе і набыла ў фельдмаршала Я.Флемінга маёнтак Воўчын і Радванічы ў Берасцейскім павеце. У сям’і Станіслава і Канстанцыі з 1721-га па 1736 г. нарадзілася восем дзяцей. Будучы кароль быў чацвёртым сынам з шасцярых. Тым часам у бацькі — генерал-лейтэнанта войска літоўскага — кар’ера ладзілася: неўзабаве ён увайшоў у вышэйшае кола магнатаў Рэчы Паспалітай, стаў карыстацца графскім тытулам. Так што ў малодшага Станіслава Панятоўскага быў цудоўны старт для кар’еры. І малады шляхцюк скарыстаўся ім напоўніцу... Канечне, атрымаў добрыя выхаванне і адукацыю. Да ўсяго быў здольным і інтэлігентным маладым чалавекам з мяккім характарам. Як было заведзена ў магнацкіх сем’ях, удасканальваў свае веды падчас падарожжаў у Еўропу — у Францыю і Англію праз Нямеччыну. Азнаёміўшыся з культурнымі дасягненнямі Захаду, так на ўсё жыццё і застаўся прыхільнікам еўрапейскай культуры. Гэтая цяга наогул праявілася пазней, калі ён стаў каралём і мецэнатам...

Прыгожы і далікатны малады граф звярнуў на сябе ўвагу вялікай княгіні Кацярыны Аляксееўны, жонкі спадкаемцы расійскага трона, вялікага князя Пятра Фёдаравіча. Пачаўся бурны раман, вялікая княгіня — хадзілі чуткі — нібыта зацяжарала. Станіслаў Аўгуст нават хацеў, каб Кацярына Аляксееўна разышлася з мужам і выйшла замуж за яго. Тады ён мог бы прэтэндаваць на польскую карону. Але ў Кацярыны былі зусім іншыя планы. Тым часам праз Станіслава Панятоўскага англійскі пасол у Пецярбургу Уільям трымаў сувязь з вялікай княгіняй, падтрымліваў яе ў прыдворных інтрыгах. У 1758 г. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі вярнуўся з-за мяжы на радзіму, але ад рамана з вялікай княгіняй засталася толькі перапіска... Спадзеўкі на карону выветрыліся — Кацярына пакахала гвардзейскага афіцэра Рыгора Арлова. А потым, у 1762 г., у выніку палацавага перавароту была абвешчана ўсерасійскай імператрыцай Кацярынай ІІ. Аднак яна не забылася на свайго былога каханка. Ведаючы характар Станіслава і ягоныя ранейшыя пачуцці да яе, яна палічыла, што лепшай кандыдатуры на каралеўскі пасад у Варшаве для Расіі і не знойдзеш. З дапамогай якраз Станіслава можна будзе праводзіць неабходную для Расійскай імперыі палітыку ў Рэчы Паспалітай. Расія на той час была дастаткова моцнай, каб самастойна пасадзіць на каралеўскі трон свайго чалавека...

### “Віват каралю?!”

5 кастрычніка 1763 г. памёр кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аўгуст ІІІ (Саксонскі). Каралеўскі пасад у Рэчы Паспалітай стаўся вакантным. Пачалася падрыхтоўка да выбараў новага караля. Але Расія падрыхтавалася яшчэ раней. Пасля ўступлення на трон Кацярына ІІ у рэскрыпце расійскаму пасланніку ў Варшаве паставіла задачу абраць караля, які б цалкам падпарадкаваўся ёй. 6 кастрычніка 1763 г. на нарадзе ў Кацярыны ІІ быў прыняты праект, згодна з якім частка тэрыторый Рэчы Паспалітай павінна была адысці Расіі. Мяжа супадала з той, што будзе ўстаноўлена Расіяй паводле першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе. Такім чынам ужо ў 1763 г. Кацярына ІІ паставіла пытанне аб далучэнні да Расіі ўсходняй і паўночнай частак Беларусі і ўсходняй тэрыторыі Латвіі.

Тым часам у Рэчы Паспалітай паміж магнацкімі групоўкамі Чартарыйскіх і Патоцкіх ішла барацьба за трон... Групоўка Чартарыйскіх, зыходзячы з пажаданняў Кацярыны ІІ, вылучыла на караля кандыдатуру свайго пляменніка — Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Па просьбе якраз Чартарыйскіх імператрыца паслала ў Рэч Паспалітую расійскія войскі. Пачаліся ваенныя дзеянні, у выніку якіх палі радзівілаўскія крэпасці Нясвіж і Слуцк. Войска Радзівіла было разбіта, а сам ён уцёк за мяжу. У Польшчы праціўнікі Чартарыйскіх таксама былі задушаны. У гэтай міжусобіцы, калі шмат хто выступаў супраць рэформ, Чартарыйскія ўсё ж не пагадзжаліся на перадачу Расіі Усходняй Беларусі. Але хто іх будзе слухаць, калі па ўсёй акрузе кацярынінскія драгуны?! І на выбарчым сойме, які праходзіў пад аховай расійскіх войскаў і прыватных войскаў Чартарыйскіх, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі быў-такі абраны каралём. Дыпламатыя, памножаная на сілу расійскіх штыкоў, прынесла свой плён. Віват каралю!..

### Марыянетка ці патрыёт?

Станіслаў Аўгуст не адразу стаў марыянеткай у руках Кацярыны ІІ. Разам са сваякамі Чартарыйскімі спрабаваў вызваліцца ад поўнай расійскай залежнасці, шукаў шляхоў да саюзу з Аўстрыяй і Францыяй, каб супрацьстаяць Расіі і Прусіі. Ва ўнутранай жа палітыцы прагнуў пагаднення з групоўкай Патоцкіх (“рэспубліканцамі”), каб адстаяць незалежнасць дзяржавы. Але кансерватыўная частка магнатаў засталася непрыхільнай да караля, захаваўшы свае погляды на дзяржаўны лад і свае сімпатыі да Саксонскай дынастыі.

Спрабаваў ён стварыць і сваю групоўку з шляхты цэнтрысцкага характару. Але ажыццяўленне задумы прывяло да канфлікту з Чартарыйскімі, якія не хацелі саступаць каралю. Тым не менш першыя спробы рэформ у 1764—1766 гг. праводзіліся разам з Чартарыйскімі, аднак яны былі перапынены Расіяй. Новым выпрабаваннем для караля стала дзейнасць канфедэратаў, той самай патрыятычна настроенай шляхты ў Польшчы, на Беларусі, у Літве і ва Украіне, якая стаяла за аднаўленне сапраўднай незалежнасці Рэчы Паспалітай ад Расіі. Панятоўскі і тут вагаўся. Ці дзейнічаць супраць канфедэратаў разам з Расіяй (бо расійскія войскі зноў былі ўведзены ў Рэч Паспалітую), ці праводзіць палітыку пасіўнага супраціву Расіі (як раілі Чартарыйскія), ці паразумецца з барскімі канфедэратамі?.. Аднак апошнія ў кастрычніку 1770 г. абвясцілі бескаралеўе і нават 3 лістапада 1771 г. арганізавалі замах на караля...

Падчас першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі паспрабаваў было пратэставаць, звярнуўся да еўрапейскіх двароў, але ніводная дзяржава не прыйшла яму на дапамогу. Расія забрала тэрыторыю з гарадамі Дынабург, Полацк, Віцебск, Орша, Магілёў і мястэчкам Гомель. Прусіі Кацярына ІІ згадзілася аддаць Памор’е, Аўстрыі — Галіцыю (Заходнюю Украіну) і паўднёвую частку Польшчы.

Нічога не заставалася, як пайсці на кампраміс з Кацярынай ІІ і прызнаць над сабою кантроль. Гэтым кароль на пэўны час абараніў тэрыторыі Польшчы ад прусакоў і аўстрыйцаў. А яшчэ дамогся ад Кацярыны ІІ яе згоды на павелічэнне арміі і правядзенне рэформ, а таксама на забеспячэнне спадчыннасці трона для свайго пляменніка Станіслава Панятоўскага. Тым не менш правядзенне далейшых рэформ Расія так і не дазволіла. Супраць караля Станіслава Аўгуста Расія трымала напагатове апазіцыю на чале з гетманам і вялікім каронным графам Я.Браніцкім, а пазней ваяводам рускім, графам С.Патоцкім. І тады Станіслаў Аўгуст, па-цяперашняму кажучы, унік у гуманітарную сферу: з падвоенай энергіяй пачаў падтрымліваць асветніцтва і адукацыю, быў мецэнатам, ініцыятарам выдання газеты “Манітор”, апекаваўся тэатрам і мастацтвам. Гэтым ён намагаўся ўзняць прэстыж Рэчы Паспалітай у Еўропе. Пры двары Станіслава Аўгуста былі сабраны найлепшыя мастакі і скульптары. Быў перабудаваны Каралеўскі палац у Варшаве, палацавы ансамбль у Лазенках. Кароль адчыніў пры палацы мастацкую школу, высылаў стыпендыятаў на вучобу за мяжу. Ён збіраў калекцыі гіпсавых бюстаў, манет, стварыў выдатную галерэю карцін. Асабіста рыхтаваў адкрыццё акадэміі мастацтва, акадэміі навук і літаратуры, нацыянальнага музея. Падтрымліваў адкрыццё мануфактур, у тым ліку і на тэрыторыі сённяшняй Беларусі. Але ўсё гэта мала суцяшала, бо каралеўская ўлада і незалежнасць дзяржавы былі не ў ягоных руках...

### Капітулянт, але не здраднік...

Палітычная раўнавага ў Рэчы Паспалітай напрыканцы 80-х гадоў XVII ст. была ўрэшце пахіснута дзеяннямі апазіцыі, якая прадстаўляла шырокую плынь прагрэсіўнай шляхты і мяшчан. Гэты блок на Чатырохгадовым сойме (1788—1792) правёў шматлікія рэформы, набліжаючы дзяржаўны лад Рэчы Паспалітай да рэвалюцыйных змен. У паветры запахла... Вялікай Французскай рэвалюцыяй.

Кароль — насуперак расійскаму самадзяржаўю — пайшоў на пагадненне з рэфарматарамі, супрацоўнічаў з імі. У снежні 1790 г. ён перадаў у сойм уласны праект рэформы дзяржаўнага ладу. У значнай ступені прапановы караля былі ўкладзены ў прынятую 3 мая 1791 года Канстытуцыю. І гэта прыкметна падвысіла палітычны рэйтынг Станіслава Аўгуста Панятоўскага, ягоны аўтарытэт як караля, асабліва сярод мяшчанства, якому былі нададзены пэўныя правы.

Аднак збройная інтэрвенцыя Расіі ў 1792 годзе спыніла ўсе рэформы. Праціўнікі іх — таргавіцкія канфедэраты — захапілі ўладу ў Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы. Як ні дзіўна, але да іх далучыўся і... сам кароль. Такім “кульбітам” ён фактычна санкцыянаваў інтэрвенцыю і скасаванне рэформ Чатырохгадовага сойма. На караля легла адказнасць як на капітулянта, які спыніў збройны супраціў расійцам. Цяпер Кацярына ІІ трымала свае войскі ў Рэчы Паспалітай пастаянна. Кіраўнікі рэфарматараў эмігравалі і пачалі рыхтавацца да паўстання, а Панятоўскі дзейнічаў пад поўным кантролем расійскага пасла графа Я.Сіверса. Сойм Рэчы Паспалітай змушаны быў пагадзіцца і з другім падзелам Рэчы Паспалітай. У выніку Кацярына ІІ анексіравала цэнтральную частку Беларусі і Правабярэжную Украіну, а Заходнюю Польшчу аддала Прусіі. Станіслаў Аўгуст зноў сваім бяздзеяннем санкцыянаваў вынікі другога падзелу Рэчы Паспалітай...

Падчас паўстання 1794 г. у Польшчы, Беларусі і Літве пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі кароль Станіслаў Аўгуст быў адхілены расійцамі ад улады і займаў фармальнае становішча. І хоць ён быў у добрых адносінах з Касцюшкам, але ж асцерагаўся за сваё жыццё. Ягоны малодшы брат Міхал Ежы Панятоўскі, абвінавачаны ў здрадзе на карысць Прусіі і Расіі, скончыў жыццё самагубствам — баяўся разгневанага натоўпу суайчыннікаў. Было ад чаго нервавацца і самому манарху...

Пасля паражэння паўстання 1794 г. Станіслаў Аўгуст па загадзе Кацярыны ІІ выехаў з Варшавы ў Гародню, дзе і жыў у каралеўскім палацы ажно да яе смерці. Потым пераехаў у Санкт-Пецярбург пад патранатнагляд Паўла І. Пісаў мемуары, у якіх апраўдваў сваю палітыку. Памёр там жа 12 лютага 1798 г. і быў пахаваны ў каталіцкім касцёле на Неўскім праспекце. У 1938 г. рэшткі яго праху перазахавалі ў Троіцкім касцёле Воўчына — на радзіме. Толькі пасля Другой сусветнай вайны, у канцы 80-х гадоў, сімвалічны прах апошняга караля Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага перавезлі ў Польшчу. Які-ніякі, а ўсё ж кароль, прычым апошні ў гісторыі...

**Георгій ЧЫГІР.**



ХТО ЁСЦЬ ХТО

# Падман
## у стылі «джаз»

Гады тры таму, убачыўшы афішу Мінскага джаз-клуба з рэкламай канцэрта нейкага французскага саксафаніста, “зоркі еўрапейскага джаза”, я не паленаваўся і звярнуўся да пошукавага сэрвісу ў інтэрнэце. Дзіва, але ніводнай згадкі пра гэтую “зорку” я так і не адшукаў.

І вось — чарговы анонс джаз-клуба, запрашэнне наведаць у канцы студзеня два канцэрты спявачкі **Ванды Гузман,** статус якой ужо ў першым радку анонса вызначаецца не інакш як “найвялікшая”, “геніяльная дзіва з Балтымора”, якая “прыводзіць у захапленне некалькі пакаленняў прыхільнікаў”. Як жа так здарылася, што я прамінуў гэтае імя ў шэрагу найвялікшых джазавых спявачак, што ўпершыню пачуў пра Ванду дзякуючы клопату кіраўніка Мінскага джаз-клуба **Яўгена Уладзімірава**? Давялося з дапамогай таго ж інтэрнэту правесці невялікае даследаванне.

Вынікі яго аказаліся больш чым нечаканыя. Лічыце — проста скандальныя! Ні на асабістым сайце спявачкі www.vandaguzman.com, ні дзесьці яшчэ ў Сеціве я так і не адшукаў згадкі хоць бы пра адзін (!) выдадзены спявачкай сольны альбом. І гэта за жыццё “некалькіх пакаленняў”?! Можа, прыродная сціпласць не дазваляе Вандзе Гузман запісваць і выдаваць плён свайго ўнікальнага таленту? Можа, яна аддае перавагу канцэртнай дзейнасці? Не, аніводнай згадкі не тое што пра сусветныя, а хоць бы пра кантынентальныя туры, удзел у прэстыжных джаз-фестывалях, нарэшце — пра нейкія вызначэнні кшталту GRAMMY. Можа, тая ж сціпласць не дазваляе спявачцы выставіць на сайце неабходную інфармацыю? Дык тое павінны, значыць, зрабіць іншыя.

Тады я звярнуўся да вельмі аўтарытэтнага рэсурсу, назва якога гаворыць сама за сябе: allmusic.com. І атрымаў сюрпрыз: сярод амаль 40 музыкаў з гэтым прозвішчам імя “найвялікшай” джазавай спявачкі Ванды... адсутнічае! Падумаў: стваральнікі сайта з-за дзікага недагляду памыліліся і не заўважылі зорку першай велічыні. А таму зайшоў на не менш глабальны, але ўжо спецыялізаваны сайт allaboutjazz.com, стваральнікі якога ведаюць у джазе усё і ўсіх. Поўнае расчараванне: імя Ванды Гузман сусветным спецыялістам невядомае.

Дык якую ж “зорку” рэкламуе джаз-клуб, заяўляючы на адной з афіш, што яна будзе “Упершыню ў Мінску”, у той час як Ванда ўжо давала канцэрт у нашай сталіцы ў 2010 годзе? Якое дачыненне да “белага” блюза мае згаданы ў анонсе спявак Майкл Болтан? І ўжо зусім анекдатычна і неправдзіва гучыць тэзіс пра тое, што госця Мінска стаяла ля вытокаў “Baltimore Jazz Festuval” — “аднаго са старэйшых у свеце”, калі летась гэты фестываль адбыўся ўсяго толькі ў пяты раз? І спіс недакладнасцяў пры жаданні можна працягваць.



А калі казаць па сутнасці, то Ванда Гузман — адна з многіх дзясяткаў, калі не соцень амерыканскіх спевакоў, якія аселі ў Еўропе і больш як на статус звычайных клубных артыстаў не прэтэндуюць. Тым часам як пэўны прафесійны досвед ды, бадай, колер скуры дазваляюць нядобрасумленным асобам выстаўляць іх ва ўсходнім кірунку як “найвялікшых”, “геніяльных” ды “легендарных”. Хоць, канешне ж, у параўнанні з айчыннай папсой гэта ўжо нейкі ўзровень...

Дык з чым мы маем справу? На маю думку, па меншай меры з нядобрасумленнай рэкламай. Ці, па вялікім рахунку, — з элементарным “разводам” і падманам тых наіўных аматараў музыкі, якія, паверыўшы ўсяму гэтаму трызненню, набудуць квіткі на анансаваныя канцэрты.

З гэтым пытаннем я звярнуўся ва Упраўленне абароны правоў спажыўцоў і кантролю за рэкламай Міністэрства гандлю. Там мне патлумачылі наступнае: калі нехта са спажыўцоў звернецца ў Мінгандаль з прэтэнзіяй да нейкай рэкламы, якая нібыта не адпавядае сапраўднасці, гэты зварот будзе разгледжаны і ад рэкламадаўцы запатрабуюць адпаведныя пацвярджэнні па ўсіх пунктах выстаўленых прэтэнзій. І ў выніку прызнання рэкламы неналежнай наступствы для рэкламадаўцы могуць быць самыя дрэнныя, ажно да пазбаўлення права займацца арганізацыяй канцэртнай дзейнасці...

Дарэчы, звярнуў я ўвагу і на кошты квіткоў, анансаваных джаз-клубам канцэртаў. Так, сайт Мінскканцэрта аб’яўляе пра кошт 60—70 тысяч рублёў. На сайце www.relax.by кошты ўжо крыху іншыя: 60—90 тысяч, у дзень канцэрта — 110. На сайце ultra-music.com такія: 75—250 тысяч, у дзень канцэрта — 300 тысяч. Рэкорд зафіксаваны на сайце afisha.open.by: 185—350 тысяч, а ў дзень канцэрта — усе 400 тысяч рублёў! Нават і не ведаю, як тое каментаваць... Хіба што гаворка ідзе пра розныя канцэрты.

Зрэшты, ад асабістай сціпласці генеральны прадзюсар джаз-клуба і, канешне ж, “легенда джаза” Яўген Уладзіміраў дакладна не памрэ. На сайце гэтага прадзюсарскага (каго ён прадзюсіруе?!) цэнтра зноў жа сціпла напісана, што *“Яўген Уладзіміраў — не толькі заснавальнік і арганізатар джазавага жыцця ў Мінску, папулярны вядучы на канцэртах джазавых зорак, але і найбольш запатрабаваны джазавы музыка ў краіне”.* Вось так, ні больш ні менш. Быццам бы толькі дзякуючы гэтай “легендзе” Беларусь і здолела пазнаёміцца з джазам, як у свой час Еўропа пазнаёмілася з бульбай дзякуючы іспанскім маракам.

І на гэтым можна было б скончыць, калі б не інфармацыя, якую я атрымаў 3 снежня мінулага года ад знаёмага з Кіева — арганізатара джазавых канцэртаў і фестываляў ва Украіне Уладзіміра Камінскага. Пад загалоўкам “Атака клоўнаў” ён у “Фэйсбуку” напісаў літаральна наступнае: “Паважаныя аматары джаза! Не можам не звярнуць вашу ўвагу на адзін “цікавы”, з пункту гледжання дызайну, беларускі джазавы рэсурс www.jazzclub.by. Калі ўважліва зірнуць на гэты сайт, лёгка прыйсці да наступнай высновы: нашы, з дазволу сказаць, “калегі” з Мінска ў асобе “генеральнага прадзюСара Яўгена Уладзімірава”, які ўзначальвае канцэртнае агенцтва “Джаз-Саўнд-Клуб” і прадзюсарскі цэнтр “Jazz In Minsk”, пазычылі без на тое згоды (г.зн. скралі) у прадзюсарскага цэнтра “Jazz In Kiev” дызайн сайта... Асобныя старонкі скрадзены цалкам... многія падагналі пад задачы і мэты мінскай “канторы”.

Вось і маем: мінскі джаз-клуб не толькі падманвае аматараў музыкі, але яшчэ займаецца крадзяжом чужой інтэлектуальнай уласнасці. Тут ужо насамрэч можна казаць пра Яўгена Уладзімірава як пра сапраўдную легендарную асобу, мультыінструменталіста на ўсе рукі!

І што, пасля гэтага нехта пойдзе на ягоныя канцэрты?

**Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ.**

КАК ЭТО БЫЛО...

## “Пришлось почти сутки просидеть в песках...”

*Белорусская команда “МАЗ-СПОРТавто” вернулась в Минск после первого в истории участия в престижном ралли-марафоне “Дакар-2012”.*

Нынешняя гонка проходила на территории трех стран — Аргентины, Чили и Перу, а протяженность маршрута составила более 8 тысяч километров. “МАЗ-СПОРТавто” выступала в категории “грузовики” двумя экипажами. К финишу пришел только один из них: машина пилота **Александра Полещука**, штурмана **Павла Гаранина** и механика **Дмитрия Запорощенко** на седьмом этапе перевернулась в пустыне и не смогла продолжать гонку из-за повреждений.

*“Ребятам пришлось почти сутки просидеть в песках, ожидая помощи — специального автомобиля, который смог бы поставить их машину на колеса*, — заявил журналистам начальник команды **Валерий Козловский**. — *Мы надеялись, что экипаж сможет продолжить гонку, однако при подъеме машины был нарушен каркас безопасности, и автомобиль не был допущен к дальнейшему участию”.*

Экипаж пилота Александра Василевского, штурмана Валерия Козловского и механика Антона Запорощенко прошел все 14 этапов ралли-марафона и финишировал на итоговом 31-м месте. Всего в классе грузовиков стартовало 76 машин.

*“Гонка была очень сложная. “Дакар” невозможно сравнить ни с одним ралли, в котором нам приходилось участвовать до этого*, — отметил Василевский. — *Работали с 6 утра до 12 ночи, проходили 800—900 километров в сутки. Машина нас не подвела. Мелкие поломки были, но на такой трассе без этого никак. Признаться, в некоторые моменты было по-настоящему страшно, когда “прыгали” по практически вертикальным дюнам высотой в полкилометра.*

*Думаю, можно было бы побороться и за более высокое место, но просто не хватило опыта. Чтобы в следующем году выступить успешнее, надо еще довести до ума машину и побольше тренироваться”.*

По словам Валерия Козловского, участие “МАЗ-СПОРТавто” в “Дакаре-2013” — дело практически решенное: *“На сегодняшний день я не вижу никаких помех для участия в “Дакаре” и в следующем году. Ралли показало, что техника МАЗа может не просто финишировать, но и финишировать результативно. Не говорил бы, что мы способны занять 10-е, 3-е или 1-е место. Мы увидели, над чем надо работать, но в то же время и соперники не будут стоять на месте. Нам под силу показать результат получше, но только если мы приложим огромные усилия, включая финансовую сторону”.*

В 2012 году “МАЗ-СПОРТавто” рассчитывает принять участие в двух этапах чемпионата России, а также в гонке “Шелковый путь”.



БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

## Уладзімір ШУЛЬГАН: «Зімой хадзіце па снезе ў трусах!..»

***Старшыня клуба загартоўвання і зімовага плавання “Камсамольскае возера” Уладзімір ШУЛЬГАН распавёў “Народнай Волі”, чаму з кожным годам на Вадохрышча акунаецца ў ледзяных палонках усё больш беларусаў, ці кожны можа стаць маржом і што для гэтага трэба.***



— Як вядома, па традыцыі на Вадохрышча тысячы беларусаў акунаюцца ў ледзяныя палонкі, — распавядае Уладзімір Васільевіч. — Дык вось у гэтым годзе я быў проста здзіўлены! Калі летась для купання ў палонцы 19 студзеня на ратавальную станцыю на Камсамольскім возеры ў Мінску прыйшлі 3,5 тысячы чалавек, то зараз — каля чатырох тысяч. Палічыце, колькі ўсяго па горадзе, па краіне... Напэўна, такога ў нас яшчэ ніколі не было!

**— Можа, гэта стала модным?**

— Думаю, гэта нармальнае стаўленне людзей да свята і да свайго здароўя. Да таго ж і інфармацыйная падтрымка была на ўзроўні. Адзначу, што большая частка людзей прыйшла 19 студзеня акунуцца ў палонку не першы раз — не трэба было ім распавядаць, як сябе неабходна весці і іншае.

**— Надвор’е ж таксама было такое, што, як кажуць, сабаку на вуліцу не выганіш...**

— Я таксама думаў, што надвор’е напалохае народ. Але дзе там! У восем гадзін вечара на Камсамольскім возеры была такая чарга ў палонку, што людзям даводзілася стаяць па паўтары гадзіны. Уяўляеце?!

**— Вось гэтыя людзі купаюцца ў ледзяной вадзе раз у год ці пастаянна?**

— Многія — раз у год. Але калі год таму ў нашым клубе было да 50 сябраў, то зараз ужо каля ста. Людзі пытаюцца, як пастаянна займацца загартоўваннем, цікавяцца гэтым. А калі ёсць попыт, то павінна быць і прапанова. Існавала ж некалі Федэрацыя па масавых відах спорту. Няхай бы Міністэрства спорту і турызму падумала над гэтым...

**— Ці кожны чалавек можа стаць маржом?**

— Думаю, што кожны, калі няма нейкіх вялікіх медыцынскіх супрацьпаказанняў. У першую чаргу што патрэбна? Сіла волі. Затым — рэгулярныя заняткі. І, каб не проста загартоўвацца, а менавіта стаць маржом, трэба, акрамя ўсяго іншага, задаць сабе пытанне: навошта мне гэта патрэбна? Калі чалавек унутры сябе знойдзе адказ на гэтае пытанне, то можна паступова пачынаць з загартоўкі. Любы можа ўвайсці ў ледзяную ваду. У нас у клубе ёсць нават такія, каму сёння больш за 75 гадоў. І нармальна сябе адчуваюць. Проста трэба прыслухоўвацца да свайго арганізма.

**— А вы ў якім узросце пачалі займацца?**

— Рэгулярна — 11 гадоў таму. Мне тады было 43 гады.

**— Самі прыйшлі да такога ладу жыцця?**

— Я пастаянна бегаў на Камсамольскае возера, рабіў там зарадку. Неяк заўважыў, што мае сябры і ледзяной вадой не грэбуюць. Таксама паспрабаваў. Спадабалася. Адным словам, для мяне прыкладам сталі іншыя людзі.

**— Моцна дапамагае ў жыцці?**

— Скажам так, не абцяжарвае. Але, скажу вам шчыра, купанне ў палонцы дае такі запас псіхалагічнай устойлівасці, што не перадаць словамі. Калі раніцай акунуўся ў ледзяную ваду, то цэлы дзень ніхто і нішто не сапсуе мне настрой. Увесь арганізм — у тонусе, нейкая своеасаблівая абарона ў яго з’яўляецца. Натуральна, умацоўваецца і імунітэт да хвароб. Я ўжо і не памятаю, калі апошні раз хварэў. Спакойна хаджу на дачы босы і ў шортах, не адчуваю ніякага дыскамфорту.

**— Амаль як у тым дзіцячым вершыку: “Если хочешь быть здоров — закаляйся. Ходи в школу без трусов — не стесняйся”.**

— Бегаць голым ніхто не прымушае, а вось у трусах пахадзіць па снезе 2—3 хвіліны карысна. Асабліва ў вёсцы, бо там ніколі не будзе перабору. Холадна табе — забег у цёплую хату і пагрэўся. Ніхто не змерзне. Чаму б не прабегчыся 10—15 метраў у прыбіральню без штаноў? Яшчэ і снегам можна нацерці твар, шыю, рукі, грудзі. Вялікіх жа намаганняў для гэтага не трэба.

**— Уладзімір Васільевіч, а які сярэдні ўзрост беларускага маржа?**

— Каля 50 гадоў, што пацвярджае правіла: да гэтага трэба прыйсці. Каб перамагчы ледзяную ваду, трэба мець псіхалагічную ўстойлівасць, сілу волі... Моладзі на самай справе мала, але я б ім і не раіў спяшацца ў маржы, пакуль арганізм фізічна поўнасцю не сфарміруецца. Экстрым тут не да месца. Да гэтага часу можна проста загартоўвацца, больш бываць на свежым паветры.

**— Які ў вас, скажам так, працоўны графік у плане маржавання?**

— Здараецца, што і шэсць разоў магу залезці ў ледзяную палонку. Не пакупаўся — гадзінная прагулка вакол возера без шапкі і пальчатак. Загартоўванне прадугледжвае больш быць сам-насам з прыродай, каб адчуць дух прыроды. У здаровым целе — што? Правільна — здаровы дух.



**Алесь СІВЫ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

## Сборная века

*Союз европейских футбольных ассоциаций (УЕФА) составил символическую сборную XXI века.*

Команда была сформирована по итогам 11 ежегодных опросов болельщиков, проведенных в XXI веке на официальном сайте УЕФА. Сборная также получила пять запасных игроков и главного тренера, сообщает сайт УЕФА.

Вратарем сборной XXI века стал испанец Икер Касильяс, защитниками — бразилец Даниэл Алвес, итальянец Алессандро Неста, англичанин Джон Терри, испанец Карлес Пуйоль, полузащитниками — португалец Криштиану Роналду, испанцы Андрес Иньеста и Хави, француз Зинедин Зидан, нападающими — француз Тьерри Анри и аргентинец Лионель Месси.

Запасными игроками стали итальянец Джанлуиджи Буффон, бразильцы Кака и Роналдиньо, англичанин Стивен Джеррард и чех Павел Недвед. Пост главного тренера команды занял португалец Жозе Моуриньо.

УЕФА также подвел итоги опроса по определению символической сборной 2011 года. В эту команду вошли Касильяс, Даниэл Алвес, Херард Пике, Тиаго Силва, Марсело, Арьен Роббен, Хави, Иньеста, Гарет Бейл, Криштиану Роналду и Месси.

## Обратная сторона медали

*Лидер сборной Канады по акробатическому фристайлу Сара Бурк, находившаяся в коме после падения на тренировке, не приходя в сознание скончалась в госпитале Солт-Лейк Сити в конце прошлой недели, сообщает агентство Франс Пресс.*

Бурк разбилась во время исполнения пируэта в американском Парк-Сити 10 января, где она готовилась к Всемирным экстремальным играм. В состоянии комы на вертолете ее доставили в госпиталь в Солт-Лейк Сити. Несколькими днями спустя врачи провели ей операцию по удалению разрыва позвоночной артерии.

По словам медиков, причиной смерти Бурк стали необратимые повреждения мозга, полученные в результате нехватки кислорода из-за остановки сердца. Спортсменке было 29 лет.

Сара Бурк была обладательницей золотой медали чемпионата мира 2005 года в хафпайпе, а также четырехкратной победительницей Всемирных экстремальных игр в суперпайпе. Специалисты считали Бурк одной из основных претенденток на золото Олимпийских игр, которые пройдут в Сочи в 2014 году.

## Подобьем “бабки”

*Международная федерация футбола (ФИФА) рассчитывает получить от чемпионата мира 2014 года в Бразилии прибыль в размере около 1,2 миллиарда долларов, сообщает Франс Пресс со ссылкой на заявление генерального секретаря организации Жерома Вальке.*

По его словам, доходы от проведения турнира составят 3,5 миллиарда долларов, тогда как расходы — около 2,3 миллиарда. Стоит отметить, что выручка от ЧМ-2010 в ЮАР была несколько выше — 4,1 миллиарда долларов. Эти цифры включают в себя только непосредственно траты ФИФА, без капитальных и прочих расходов принимающей стороны.

Вальке также выразил уверенность в том, что Бразилия успешно и вовремя подготовится к проведению ЧМ. “Будет ли Бразилия готова к 2014 году? У нее нет выбора”, — сказал чиновник ФИФА.

Ранее знаменитый в прошлом бразильский футболист, а ныне депутат Ромарио заявлял, что из 12 стадионов, которые предполагается построить или реконструировать к чемпионату мира, два так и не будут завершены.

## На нервах

*Киприота Маркоса Багдатиса, занимающего 44-е место в рейтинге Ассоциации теннисистов-профессионалов, оштрафовали на 800 долларов за его поведение на Открытом чемпионате Австралии.*

Багдатис, недовольный своей игрой против Станисласа Вавринки из Швейцарии, сломал за 25 секунд четыре теннисные ракетки.

Оргкомитет турнира имел право оштрафовать Багдатиса на сумму до двух тысяч долларов, однако ограничился относительно небольшим размером штрафа. Как отмечает австралийское агентство ААР, сумма штрафа оказалась меньше стоимости сломанных ракеток Багдатиса.

**Александр НИКОНОРОВ.**

ПО ПОВОДУ

## Да разве ж сердце позабудет!..

*Его шахматная жизнь — увлекательная игра, требующая интеллекта, логического мышления, а порой — и мужества.*

Мы с Виктором Давыдовичем Купрейчиком знакомы не одно десятилетие, шахматный талант международного гроссмейстера известен. Но сегодня я хочу рассказать не о его спортивных достижениях, а об одном очень, на мой взгляд, мужественном поступке Виктора Давыдовича, о котором знают немногие. Речь идет о сеансе одновременной игры на 25 досках в Чернобыльской зоне.

Да, Виктор был тогда на передовой линии борьбы за жизнь тысяч и тысяч людей. Что им руководило? Убежден, что любовь к людям, которые попали в страшную беду. Хотел им хоть как-то помочь и поддержать. Тогда он сделал, может быть, не столько шахматный ход, сколько ход смелого, мужественного человека. Согласитесь, на такое не каждый способен в наше время.

Я уверен, что сегодня Виктор Купрейчик не жалеет об этом. Хотя последствия уже дают о себе знать, такое не проходит бесследно. В Чернобыльской зоне солдаты, офицеры внутренних войск и гражданские лица, которые помогали устранять последствия зловещей катастрофы, играли с Виктором Давыдовичем в шахматы, забывая на какое-то время, где они находятся.

Вместо проигравших за шахматные доски садились другие... Вот такие у нас люди! Этот сеанс одновременной игры в шахматы в районе Чернобыля навсегда останется в моей памяти. Такое не забывается...




**Юрий ЯСИНСКИЙ,**
**ветеран спорта, заслуженный тренер БССР.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск,**
**вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная:**
**тэл.**
**(017) 3286871.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906**
**nv@promedia.by**
**http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

9772071964000 12013

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік**
**і галоўны рэдактар**
**Іосіф Паўлавіч**
**СЯРЭДЗІЧ**


**Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 16.01.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 28370 экз. Заказ №349.**